Пролетары ўсіх краін, злучайцеся!

# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ

## БЮЛЕТЭНЬ
## АПАД ЦК і МЕНАКА КП(б)Б

1-га ЛЮТАГА

## № 2 (3)

ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б
МЕНСК—1929

*Пролетары ўсіх краёў, злучайцеся!*

# У ДАПАМОГУ ПАРТВУЧОБЕ

## БЮЛЕТЭНЬ
## АПАД ЦК і МЕНАКА КП(б)Б

1-га ЛЮТАГА

## № 2 (3)





ВЫДАНЬНЕ ЦК КП(б)Б

МЕНСК 1929

## Усім акругкомам, райкомам і вясковым ячэйкам КП(б)Б[1]).

Веснавая пасеўная кампанія бягучага 1929 г. набывае асабліва значэньне. Асноўнай прычынай, якая прымушае аддаць гэтай кампаніі найбольш увагі з боку ўсіх устаноў і арганізацый, зьвязаных з вёскай, а таксама савецкай грамадзкасьці на вёсцы, зьяўляецца неабходнасьць катэгарычнага правядзеньня ў жыцьцё пастаноў партыі і савецкага ўраду *аб паглыбленьні сацыялістычнай рэканструкцыі сельскай гаспадаркі, уздыме вытворчасьці яе і павялічэньні ўраджайнасьці, асабліва збожжавых і тэхнічных культур.*

Аднак, ня гледзячы на своечасовасьць дырэктыў, большасьць мясцовых партыйных і савецкіх арганізацый і ўстаноў ня ўлічылі важнасьці своечасовае падрыхтоўкі і разгортваньня гэтай кампаніі на вёсцы. Як яскравы прыклад спазьненьня і няўменьня зьвязаць задачы пасеўнай кампаніі з іншымі мерапрыемствамі, зьяўляецца кампанія перавыбараў саветаў. Большасьць партыйных арганізацый ня здолела поўнасьцю выкарыстаць гэтую важную кампанію для папулярызацыі пастаноў партыі ў галіне сельскае гаспадаркі, шырокага абгаварэньня сялянствам закону аб павялічэньні ўраджайнасьці, вызначэньня на справаздачных і перавыбарчых сходах сялян канкрэтных задач у гэтай галіне.

Такім чынам, пытаньні ўздыму ўраджайнасьці і пасеўнай кампаніі да раёнаў, сельсаветаў і вёсак, да шырокіх мас сялянства ў большасьці месц яшчэ не дайшлі, і самадзейнасьць мас вакол гэтых пытаньняў не арганізавана. Да гэтага часу ў справу падрыхтоўкі да веснавое сяўбы ня ўцягнуты, як належыць, камсамол, настаўніцтва, шэфарганізацыі, прафсаюзы. Савецкія гаспадаркі, якія павінны ісьці ў першых радох па ажыцьцяўленьні практычных мерапрыемстваў у справе павышэньня ўраджайнасьці, да гэтага часу не правялі належнай работы ня толькі сярод наўкольнага сялянства, але мала зрабілі і ў сваіх гаспадарках.

[1]) У наступным нумары будзе зьмешчана асобная гутарка аб пасеўнай кампаніі для сеці партасьветы.

Па лініі зямельных органаў у радзе выпадкаў наглядаецца адсутнасьць і спазьненьне канкрэтных плянаў разгортваньня мерапрыемстваў па пасеўнай кампаніі. Значная частка агранамічнага пэрсаналу не зразумела яшчэ і не аценіла поўнасьцю ўсёй важнасьці задач, якія стаяць перад пасеўнай кампаніяй, і ролі агранома ў іх вырашэньні. У большасьці выпадкаў аграном на вёсцы скарыстоўваецца не па прызначэньні: часта па віне мясцовых арганізацый, а ў шмат выпадках і сам аграном праводзіць мерапрыемствы не ў адпаведнасьці з сэзоннасьцю, важнасьцю і першачарговасьцю іх.

Абураючым прыкладам нядбайнасьці і безадказнасьці, няўменьня практычна арганізаваць масы і ажыцьцявіць вызначаныя мерапрыемствы зьяўляецца злачыннае спазьненьне з сартаваньнем і ачысткай насеньня. Ня гледзячы на своечасовыя дырэктывы і напаміны Наркамзему пачаць ачыстку насеньня з лістапада 1928 г. і на пастановы ЦК аб узмацненьні тэмпу ачысткі насеньня з 1-І—29 г., гэтае мерапрыемства не атрымала належнага разьвіцьця.

Частковая праверка раду акруг і раёнаў НКЗ і РСІ паказвае, што яшчэ ў радзе раёнаў няма пляну ачысткі насеньня (Глускі—Бабруйскае акругі, Койданаўскі, Самахвалаўскі—Менскае акругі), машыны не адрамантаваны і стаяць нескарыстаныя (Вульскі раён—Полацкае акругі), адсутнічае кантроль за выкананьнем існуючых плянаў, бязьдзейнічаюць саўгасы, калгасы, камітэты ўзаемадапамогі, каапэрацыя, якія ў гэтым пытаньні павінны зьяўляцца практычнымі арганізатарамі сялянскіх мас.

Выходзячы з такога становішча падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі ЦК КП(б)Б катэгарычна прапануе:

1. АК і РК дабіцца рашучага пералому ў разуменьні парт-арганізацыяй усёй важнасьці (палітычнай і эканамічнай) своечасовай падрыхтоўкі да веснавой пасеўнай кампаніі і ажыцьцяўленьня ўжо ў гэтую весну мерапрыемстваў па ўздыме ўраджайнасьці.

Максымальна скарыстаць час, што застаўся да пачатку сяўбы, для практычнага ажыцьцяўленьня вызначаных партыяй і ўрадам задач па пытаньні ўздыму ўраджайнасьці.

2. АК, РК і ячэйкам арганізаваць навакол пытаньняў пасеўнай кампаніі шырокую самадзейнасьць сялянства дзеля чаго максымальна скарыстаць на мясцох каапэрацыю, камітэты ўзаемадапамогі, камсамол, прафсаюзы, шэфскія арганізацыі, сетку палітасьветных устаноў і школьных працаўнікоў. Правесьці адкрытыя сходы ячэек па пытаньнях веснавой сяўбы з шырокім удзелам беднаты і серадняцкага актыву.

Па лініі ўсіх партыйных, савецкіх і грамадзкіх арганізацый на вёсцы дэтальна абгаварыць пастановы ЦВК СССР

ад 15 сьнежня 1928 г., СНК БССР ад 20 сьнежня 1928 г. аб уздыме ўраджайнасьці.

3. Дабіцца, каб з пастановамі партыі і ўраду ў галіне ўздыму ўраджайнасьці і пасеўнай кампаніі была азнаёмлена ўся бядняцка-серадняцкая маса вёскі. Камітэтам партыі і фракцыям выканаўчых камітэтаў сканцэнтраваць работу сельскіх саветаў па пытаньнях пасеўнай кампаніі. Сельска-гаспадарчыя камісіі пры сельсаветах зрабіць сыстэматычна зьбіраючыміся вытворчымі нарадамі на пытаньнях сельскае гаспадаркі.

4. Фракцыям Беларускага і акруговых калгассаюзаў шырока разгарнуць работу па арганізацыі новых калгасаў з такім разьлікам, каб большасьць арганізуемых калгасаў была ўключана ў плян земляўпарадкаваньня гэтага году. Прадугледзець у практычнай рабоце, што земляўпарадкаваны ў гэтым годзе будуць толькі калгасы, якія будуць аформлены юрыдычна да 15 красавіка. Разам з тым прадугледзець усе неабходныя мерапрыемствы для ўзмацненьня існуючых ужо калгасаў, прыняўшы меры, каб усе калгасы зьявіліся пачынальнікамі і ініцыятарамі практычных мерапрыемстваў па правядзеньні веснавой пасеўнай кампаніі і ўздыме ўраджайнасьці.

5. Фракцыям Белсельсаюзу і акруговых саюзаў прыняць усе належныя меры па мабілізацыі і ўцягненьні праз вытворчыя каапэрацыйныя сельска-гаспадарчыя аб'яднаньні сродкаў сялянства для павялічэньня капітальных укладаньняў у сельскую гаспадарку.

6. Правядзеньнем цэлай сыстэмы вызначаемых партыяй і ўрадам мерапрыемстваў, дабіцца ў гэтую вясну пашырэньня агульнай пасеўнай плошчы яравых культур ня менш, як на 3%, і ўздыму ўраджайнасьці збожжавых культур на 7% у сялянскіх гаспадарках, і пашырэньня пасеву яравых культур у саўгасах на 6% і калгасах на 82% (уключаючы плошчы і новых калгасаў), і ўздыму ўраджайнасьці ў саўгасах і калгасах на 12%. Асабліва згрупаваць увагу на мерапрыемствах па пашырэньні пасеву тэхнічных культур (ільну) ня менш, як на 12% і канапель на 7%, бульбы на 10%.

7. АК і РК КП(б)Б, фракцыям АВК і РВК арганізаваць кантроль над выкананьнем усіх плянавых мерапрыемстваў па пасеўнай кампаніі, зьвярнуўшы асаблівую ўвагу на своечасовае выкананьне пляну па забясьпячэньні насельніцтва насеньнем, угнаеньнямі, сельска-гаспадарчымі машынамі і крэдытамі. Своечасова сыгналізаваць адпаведным цэнтральным установам аб маючыхся недарэчнасьцях з выконваньнем плянаў.

8. Дабіцца максымальнага правядзеньня ў жыцьцё прасьцейшых агры-культурных мерапрыемстваў, якія даюць найбольш хутка і без асаблівых выдаткаў эфэкт у сельскай гас-

падарцы, як напр.: ачыстка насеньня (на менш 50% пасеўнага матар'ялу ў гэтым годзе), пасеў гатунковым насеньнем, радавы пасеў, зьнішчэньне межнікаў, барацьба з пустазельлем і шкоднікамі сельскае гаспадаркі, занятыя і раньнія папары, шырокае скарыстаньне на ўгнаеньне торфу і попелу, а таксама зялёнага ўгнаеньня—лубіну. Больш поўнае скарыстаньне сельска-гаспадарчага інвэнтару, які маецца ў сялянскіх гаспадарках, калгасах, саўгасах, пракатных пунктах, машынных і пасялковых таварыствах.

9. Высоўваемыя партыяй у бягучую пасеўную кампанію задачы патрабуюць максымальнае ўвагі да аказаньня матар'яльнай і агратэхнічнай дапамогі беднаце. ЦК абавязвае ўсе АК, РК і ячэйкі выявіць і прасачыць, каб у раёнах і сельсаветах быў дакладны і поўны вучот патрэб беднаты ў сродках вытворчасьці і крэдытах. Разьмеркаваньне крэдытаў, насеньня, машын, мінэральнага ўгнаеньня і агратэхнічная дапамога павінны праводзіцца з такім разьлікам, каб у першую чаргу была забясьпечана і абслужана бяднейшая частка сялянства. Работа па забясьпячэньні беднаты павінна быць пастаўлена так, каб накіроўваемыя дзяржаваю сродкі на вёску садзейнічалі вытворчаму каапэраваньню беднаты. Для мабілізацыі ўвагі і энэргіі самой беднаты, разгарнуць у гэтым напрамку работу з беднатой, дзеля чаго правесьці сходы беднаты і раённыя нарады груп беднаты па пытаньнях пасеўнай кампаніі, з прыцягненьнем на сходы беднаты серадняцкага актыву.

10. ЦК абавязвае акругкомы, райкомы і ячэйкі КП(б)Б у практычнай рабоце выпукліць падрыхтоўку да веснавое сяўбы, як галоўную задачу партыі ў бягучы пэрыяд, аддаць максымум энэргіі і ўвагі справе калектывізацыі, вытворчага каапэраваньня, дапамогі беднаце і ўздыму ўраджайнасьці. Работа кожнага члена партыі на вёсцы, ячэйкі і райкому будзе ацэньвацца ў залежнасьці ад таго, наколькі практычна на мясцох атрымае вырашэньне высоўваемая партыяй задача ў галіне сацыялістычнай рэканструкцыі сельскае гаспадаркі.

Сакратар ЦК КП(б)Б *Васілевіч.*

Заг. аддзелу па рабоце на вёсцы *Ляўкоў.*

---

**1. Калі я ведаю, што ведаю мала, я даб'юся таго, каб ведаць больш, але калі чалавек будзе гаварыць, што ён камуніст, што яму і ведаць нічога стала не патрэбна, то нічога падобнага да камуніста з яго не выйдзе (т. XVII ст. 318).**

---

# Арганізацыя і мэтодыка партасьветы.

## За сваечасовае вылучэнства рабочых прапагандыстых.

Праца рабочых прапагандыстых, прапагандыстых ад варштату дае, як паказвае вопыт, вельмі дадатныя вынікі. Ужо тое, што рабочы прапагандыст захоўвае непасрэдную сувязь з прадпрыёмствам ствapae асаблівую вартасьць яго працы, як кіраўніка школы ці гуртка. Трэба таксама адзначыць, што рабочы прапагандыст, як правіла, адносіцца больш уважліва да сваей прапагандысцкай працы, чым „адказны“ працаўнік, перагружаны іншымі грамадзкімі абавязкамі.

На жаль, лік рабочых прапагандыстых да гэтага часу вельмі нязначны.

Ёсьць нават шмат выпадкаў, калі таварышы, якія скончылі летнія курсы рабочых прапагандыстых, на прапагандыцкай працы ня скарыстоўваюцца. А між тым ва усей нашай сеці партасьветы адчуваецца вялікі недахоп у прапагандыстых. З другога боку, узрост сярэдніх і вышэйшых зьвеньняў партасьветы, значнае павялічэньне ліку таварышоў, якія займаюцца ў іх, дае магчымасьць значна пашырыць вылучэнства рабочых прапагандыстых. Гэтая магчымасьць павінна быць максімальна скарыстана. А гэта значыць, што нельга пакінуць справу вылучэнства і падрыхтоўкі рабочых прапагандыстых па старому. Недахопы мінулых гадоў у гэтай галіне павінны быць рашуча зьнішчаны.

Да бягучага году вылучэнства рабочых прапагандыстых праводзілася па сканчэньні навучальнага году. Да адбору курсантаў на летнія курсы прапагандыстых ня рыхтаваліся. Высоўвалі таварышоў, якія ня мелі дастатковай папярэдняй падрыхтоўкі, ня былі здольны да прапагандыцкай працы і ня мелі ахвоты зараз-жа займацца ёю.

Высунулі, накіравалі на каротка-тэрміновыя курсы і годзе. Гэтым абмежаваліся. Каротка-тэрміновыя курсы могуць даць дадатныя вынікі, больш менш здавальняюча падрыхтаваць прапагандыста толькі пры дастатковай папярэдняй падрыхтоўцы і пры пастаноўцы пасьлядоўна-сыстэматычнай працы па павышэньні кваліфікацыі прапагандыста

шляхам наладжваньня сталай работы сэмінарыяў, арганізацыі самаадукацыі прапагандыстых і г. д.

Вось чаму вынікі працы гэтых курсаў аказаліся малымі.

Што трэба рабіць для максымальнага пашырэньня кадра рабочых прапагандыстых і паляпшэньня якасьці іх працы?

Па-першае, трэба зараз-жа правесьці вылучэнства рабочых прапагандыстых з найбольш падрыхтаваных таварышоў, якія выявілі здольнасьці да прапагандыцкай працы.

На прапагандыцкую працу могуць быць вылучаны толькі тыя таварышы, якія пасьпяхова скончылі двухгадовую вечсавпартшколу II ступені, ці маюць адпаведную падрыхтоўку. Ні ў якім разе ня ніжэй.

З вячэрняга камунівэрсытэту і з агульна-адукацыйных навучальных устаноў (вечрабфак, рабочы унівэрсытэт) могуць быць высунуты толькі тыя таварышы, якія знаходзяцца на апошнім курсе.

Па-другое, трэба зараз-жа прыступіць да падрыхтоўкі высунутых на прапагандыцкую працу таварышоў.

Высунутым можна даць дадатковыя заданьні, прапрацоваць з імі асобныя мэтадычныя пытаньні, як, напрыклад, мэтодыка працы над кнігай і інш. Калі вылучаныя на прапагандысцкую працу да сучаснага моманту не зьвязаны з якой-небудзь навучальнай установай, неабходна безадкладна прыступіць да іх поўнай навучальнай і мэтадычнай папярэдняй падрыхтоўкі.

Па-трэцяе, каротка-тэрміновыя курсы прапагандыстых павінны быць добра падрыхтаваны як з боку адбору курсантаў, так і забясьпячэньня кваліфікаванымі кіраўнікамі. Гэтыя кіраўнікі таксама павінны быць сваечасова вызначаны, каб яны мелі досыць часу для сваёй падрыхтоўкі да гэтай вельмі адказнай працы.

Па-чацьвертае, па сканчэньні летніх курсаў трэба арганізаваць сыстэматычную вучобу прапагандыста, трэба весьці сталую работу па павышэньні тэорэтычнага ўзроўню, марксыцка-ленінскай мэтадычнай падрыхтоўкі прапагандыста.

*Ш. Гольдзін.*

---

## Вынікі і пэрспэктывы завочнай Камасьветы.

Завочны Камвуз Беларусі існуе другі год. Якія-ж вынікі мінулага году? Ці можам мы іх лічыць здавальняючымі? Якія перашкоды сустракаў Завочны Камвуз на шляху свайго разьвіцьця? Гэтыя пытаньні прадстаўляюць вялікі інтарэс для ўсёй нашай арганізацыі. Але раней чым адказаць на гэтыя пытаньні, неабходна адзначыць тыя асаблівасьці, якія мае Завочны Камвуз ва ўмовах БССР.

Завочны Камвуз ёсьць установа, якая мае на мэце даць *вышэйшую камуністычную адукацыю* членам партыі. Гэтую мэту неабходна ўлічваць, калі мы падыходзім да пытаньня аб складзе студэнтаў. Зусім зразумела, што падобная ўстаноўка ўносіць адразу вялікае абмежаваньне ў адносінах да нашай арганізацыі, у якой маецца 30 тысяч з лішкам членаў і кандыдатаў. Ужо з пастановы ЦК аб разьвёрсцы вынікае, што проц. студэнтаў у Завочным Камвузе павінен скласьці прыкладна палову процанта ўсёй нашай арганізацыі. Калі супаставіць гэты процант з тым проц., які ўстанавіў ЦК УсеКП(б) для Сьвярдлоўскага Кам. Унівэрсытэту, то мы ўбачым, што саюзны процант ніжэй у 6 разоў за беларускі, бо тая тысяча чалавек, якія фармальна ўстаноўлены для Сьвярдлоўкі, складаюць 1/12% УсеКП(б). Нават абмяжоўваючы раён дзейнасьці Сьвярдлоўскага Завочнага Камвузу межамі РСФСР і выключна членамі партыі, дык і тады атрымоўваецца 1/5% усіх сяброў партыі, гэта зн. зноў такі ніжэй процанту ахопу беларускага Завочнага Камвузу (1000:530446[1]).

Гэты асноўны факт павінен быць намі ўлічан пры ацэнцы работы нашага Завочнага Камвузу. Ясна, што пры фармальным залічэньні ў яго каля 150 чал. фактычна працаваць будзе шмат менш. І сапраўды, улічваючы зараз колькасьць фактычна працуючых, мы знаходзім яе роўнай 22,8 проц. Вядома, нельга сказаць, каб гэта было вельмі добра, але ўсё-ж такі поступ уперад. Стварэньне хоць-бы некаторага актыву вышэйшага завочнага навучаньня зьяўляецца посьпехам.

Ці можам мы прызнаць яго дастатковым? Ні ў якім разе. У гэтым пункце неабходна ўхіліцца двух небясьпек. Адна з іх заключаецца ў паніке, надмерным пэсымізьме, упадніцтве. Гэтыя погляды мы павінны адкінуць.

Ніколі бальшавікі не пасавалі перад цяжкасьцямі. У адносінах да іх у бальшавікоў заўсёды быў адзін лёзунг: Перамагчы.

Другая небясьпека заключаецца ў імкненьні да „почивания на лаврах" (хоць лаўры не асабліва багатыя). Дзеля таго, каб наш Завочны Камвуз адпавядаў пастаўленай задачы, каб ён фактычна ахопліваў усё большую і большую колькасьць камуністых, якія ўзьнімаюць свой тэорэтычны ўзровень, не адрываючыся ад практычнай работы, неабходна поўнасьцю выкарыстаць той вопыт, які нам даў мінулы год.

Мы зараз правялі новы набор. Да сёньняшнага дню залічана 112 чалавек. Трэба сказаць, што мы ўжо спазьніліся. Магілеўскі акругком да гэтае пары ня прыслаў ніводнае анкеты, ня вылучыў ніводнага таварыша для навучаньня ў Завочным Камвузе. Мы ніяк не маглі згадзіцца з тым, што ва ўсёй Магілеўскай акрузе няма ніводнага таварыша, жа-

[1]) Усесаюзны партыйны перапіс 1927 году.

даючага павысіць свой тэорэтычны ўзровень. Відавочна, што да гэтае справы, як відаць, адносіліся не з дастатковай уважлівасьцю. Сыстэматычнае спазьненьне характэрна амаль для ўсіх арганізацый; чакаюць, пакуль падцягнецца апошні завочнік. Мы думаем, што пры належнай напруджанасьці ўвагі ад гэтых спазьненьняў можна ўхіліцца. Што датычыцца работы ўласна завочнікаў, то ўсе яны ў адзін голас заяўляюць: *няма ўмоў для работы*. Ня гледзячы на пастановы вышэйшых партыйных арганізацый, асобны свабодны час для навучаньня не вылучаецца. Гэта, мусіць, адносіцца да актыву, які выносіць на сваіх плячох усю практычную работу. У сувязі з гэтым завочны Камвуз зрабіў некаторую пераўстаноўку. Галоўны цэнтр цяжкасьці работы пераносіцца на камунараў, непасрэдна працуючых у варштату. Дзе магчыма ствараюцца групы для калектыўнай работы. Прымаюцца меры для пастаноўкі лепшага абслугоўваньня АПА-габінэтамі на мясцох, наладжваньня консультацый, калектыўнай падпіскі на падручнікі. Такія групы арганізаваны ў Дуброўне, Барысаве, намечана да арганізацыі ў Гомлі і Віцебску непасрэдна на фабрыцы.

Аднак, гэта ня здымае з нас задачы стварэньня адпаведных умоў работы для завочнікаў савецка-партыйнага актыву. Таму, перад нашымі арганізацыямі, як і раней, стаіць неабходнасьць выкананьня ўжо вядомых умоў. Паколькі новы набор зараз павінен прыступіць да работы, важна, каб завочнікі ўжо з самага пачатку сустрэлі дастаткова ўважлівыя адносіны з боку партарганізацый. Павінны быць, нарэшце, створаны належныя ўмовы для вучобы актыву. З другога боку і перад Завочным Камвузам стаіць важнейшая задача: перамагчы сваю „завочнасьць“ і пры пасрэдніцтве жывое сувязі і жывога інструктаваньня, садзейнічаць арганізацыі на фабрыках і заводах кампактных груп завочнікаў-камунараў.

Ня будзем падавацца пэсімізму. З новымі сіламі возьмемся за арганізацыю і разьвіцьцё гэтае надзвычайна важнае справы—завочнага камуністычнага выхаваньня.

*Выдра.*

**Ад рэдакцыі:** Просьба пісаць аб ходзе вучобы завочнікаў, аб мерапрыёмствах, што прымаюцца на мясцох для аблягчэньня і дапамогі ім у вучобе, а таксама выказаць свае думкі наконт кіраўніцтва завочных навучальных устаноў (камунівэрсытэтаў, саўпартшколы) і практычных мерапрыёмстваў па палепшаньні гэтага кіраўніцтва.

## Зьнішчыць перагрузку слухачоў ВСПШ.

Усім вядома, што слухачы ВСПШ, як ячэйковы, прафэсыянальны і грамадзкі актыў надзвычайна перагружаны: 5—6 нагрузак, акрамя асноўнай работы і вучобы сярод партшкольцаў звычайнае зьявішча.

Ня гледзячы на партдырэктывы аб разгрузцы перагружаных, гэта дасюль яшчэ ня зроблена.

Ня дзіва, што вельмі часта слухачом ВСПШ прыходзіцца прапускаць заняткі або прыходзіць у школу да таго змарыўшыся, што пры ўсім жаданьні нічога не ўсьвядоміш.

Яшчэ большая бяда ў тым, што ячэйкі ў дні партвучобы склікаюць розныя сходы, пасяджэньні, на якіх прысутнічаньне партыйца абавязкова. У гэтакіх выпадках савпартшколец зусім ня ведае, куды раней пасьпець. Кажуць, што ні як ня ўкласьці ўсёй працы ў астатнія дні тыдню. Я лічу, што гэта ня так. Усё залежыць ад пастаноўкі працы, ад умелага разьмеркаваньня і мэтазгоднага скарыстаньня часу.

Значна паменшыць нагрузку савпартшкольцаў можна таксама больш рашучым вылучэнствам новага актыву. Мы ведаем цэлы шэраг ячэек, дзе маецца шмат таварышоў без усякіх нагрузак, „пасыў" ячэйкі. Але гэта толькі пасыў таму, што мы яго ня ўцягваем у работу, не навучаем працаваць. Усё гэта здаецца старым, вядомым, сотні разоў перажованым, але гэта пакуль што ісьціна.

Бяз рашучых крокаў у напрамку разгрузкі савпартшкольцаў праца вечпартшкол будзе кульгаць.

*Е.*

---

## Да пытаньня аб кіраўніцтве вячэрнімі партшколамі на прадпрыемствах.

Пры некаторых прадпрыемствах і ўстановах г. Менску (тэкстыльшчыкі, міліцыя і інш.) існуюць вячэрнія партшколы. Гэтымі школамі павінна кіраваць агульна-гарадзкая вячэрняя савпартшкола.

Але ў выніку таго, што гэтыя школы працуюць у тыя-ж дні, што і агульна-гарадзкая савпартшкола, апошняя ня мае магчымасьці наглядаць за іх працай, кіраваць ёю. Маюцца такія выпадкі, калі школа прымае лябараторны мэтад працы, а бюро ячэйкі пастанаўляе замяніць яго лекцыйным (міліцыя).

Трэба зьмяніць дні вучобы вячсавпартшкол на прадпрыемствах альбо наладзіць непасрэднае кіраўніцтва над імі з боку Райкомаў ці Акругкому. Агульныя пытаньні праграмна-мэтадычнага характару пакінуць за гарадзкой савпартшколай.

*Е—г.*

## Гісторыя КП(б)Б [1])

(*Дадатковы матар'ял па гісторыі УсеКП(б) у вечпартшколах і гуртках*).

Да тэмы: „Барацьба за рэвалюцыйны марксызм і гегемонію пролетарыяту".

### Эканомізм, зубатаўшчына і сыенізм на Беларусі.

Адсталы, рамесьніцкі характар прамысловасьці Беларусі асабліва палягчаў паварот да руху „за дробныя грошы" і ўкараняў у масах недавер'е да так званых „канчатковых мэтаў". Вось чаму эканамізм знайшоў асаблівы водклік у Беларусі.

Эканамізм распаўсюджваўся амаль па ўсіх горадох Беларусі: Менску, Вільні, Беластоку, Гомлі. Але асаблівы посьпех ён меў у бундаўскіх організацыях Гародні. Падтрымлівалі яго так званыя „эканомічныя касы".

Супроць эконамізму выступілі найвыдатнейшыя правадары расійскай соцыял-дэмократыі—Ленін, Пляханаў ды інш. У канцы 900-х гадоў ён траціць грунт у рабочых масах і надалей ня грае асабліва вялізарнай ролі ў соц. дэмакратычным руху.

Гэтымі гадамі на Беларусі зьяўляецца і „зубатаўшчына".

Зубатаўшчына, як і эконамізм, зьяўлялася агульна-расійскаю зьяваю; сутнасьць яе была ў тым, каб накіраваць рабочы рух на шлях чыста эконамічных вымаганьняў, ухіліць рабочых ад „політыкі", укараніць у сьвядомасьць рабочых мас думку, што рабочы рух—адно, а соцыял-дэмократычны—другое. У першым паводле слоў Зубатава, „за мэту ёсьць капейка", а ў другім—ідэолёгічная тэорыя.

На чале гатага „поліцэйскага соцыялізму" ў Менску сталі Маня Вільбушэвіч, А. Чэмерынскі, Гольдбэрг, Волін ды інш.

У 1901 годзе зубатаўцы арганізавалі так званую „незалежную яўрэйскую рабочую партыю". У маніфэсьце гэтай партыі паказаны погляды яе на рабочы рух.

Мы думаем, кажа маніфэст: а) што ніякая тэорыя не настолькі магутная і не абвергальна праўдзівая, каб даваць права сваім прыхільнікам весьці несьвядомую масу за сабою

[1]) P. S. Пры ўкладаньні гэтых матар'ялаў як у гэтым, таксама і ў папярэдніх нумарох шырока скарыстоўваліся „Очерки по истории рев. движения" Огурскага.

да мэты, якую маса не разумее; б) што яўрэйская рабочая кляса ў сучасны момант вымагае хлеба і ведаў і што гэтыя вымаганьні мусяць быць здаволены; в) што зьяўляецца злачынствам ахвяраваць матар'яльнымі інтарэсамі рабочае клясы такім палітычным мэтам, якія цяпер яму не патрэбны; г) што рабочы, як кожны чалавек, мае права быць прыхільнікам якой ён хоча палітычнай партыі і ўсё-такі мае права бараніць свае экономічныя ды культурныя інтарэсы і быць членам у поўнай меры роўнапраўным у экономічных ды культурных організацыях; д) што экономічныя ды культурныя організацыі павінны быць для яго патрэбнымі, як паветра ды вада, рэгуляваць яго экономічныя інтарэсы, даваць яму веды, і што такімі яны могуць зрабіцца толькі тады, калі яны будуць мэтамі самі па сабе, а ня будуць зьяўляцца прыладай якой-бы там ні было палітычнай партыі [1])".

Далей пераказваецца програма гэтай партыі, у якой, як асноўная мэта рабочага руху, ставіцца змаганьне за экономічнае палепшаньне стану рабочых праз організацыю кас ды профсаюзаў.

У 1901 годзе адзін з кіраўнікоў „незалежнікаў" пісаў Зубатаву:

„Адносіны да нашай групы вельмі зьмяніліся. Выгуку „прэч" ужо ня чуваць, каменшчыкі амаль усе нашы, пераплётчыкі таксама, сьлесары—усёй душой, сталяроў—палова, даручных палова, бляшаньнікаў амаль усе. З „незалежнай рабочай партыяй" цяпер лічацца, як з сілай" [2]).

У 1902 годзе гэта партыя зрабіла была спробы організаваць і падпарадкаваць свайму ўплыву віленскіх рабочых, але яна спаткала няўдачу па дзьвюх прычынах: папершае, дзякуючы бундаўскаму ўплыву на рабочыя масы ў Вільні; падругое, з прычыны таго, што гэроічны ўчынак Г. Лекерта і поліцэйская рэакцыя пасьля яго выкрыла міратворчую, крохаборскую політыку „незалежнай яўрэйскай партыі".

Далейшыя падзеі пайшлі супроць гэтай партыі. Самаўладзтва стала на шлях поўнай ліквідацыі легальных рабочых організацый. Пракацілася хваля яўрэйскіх пагромаў, сярод якіх самым жудасным і жахлівым быў пагром у Кішынёве, названы потым „Кішынёўскай разанінай". Гэтыя падзеі адабралі глебу далейшага існаваньня незалежнай партыі, у поўнай меры выкрылі яе здрадніцкую работу і давялі да яе ліквідацыі. У сярэдзіне 1903 году частка далучылася да Бунду, другая да сыёніцкага руху.

Сыёніцкі рух у Расіі пачаўся ў 80 гадох мінулага сталецьця, але з вузка-гурткавога ў больш шырокі ён абярнуўся ўсяго толькі ў канцы 90 гадоў. К гэтаму часу сыёніцкі рух

[1]) „Красная Летопись" 1922 г. № 2-3, стар. 242.

[2]) Там-жа. Стар. 219.

пашыраецца і на Беларусі. Прычыны ўздыму сыёніцкага руху караніліся ў дробна-буржуазным характары пэўных груп яўрэйскага насельніцтва, якія, страціўшы надзею знайсьці выйсьце з свайго нацыянальна-бяспраўнага стану, зьвярнуліся да ідэалу „вольнай яўрэйскай дзяржавы ў Палестыне“. Аднэй з асноўных прычын, што спарадзілі сыёніцкі рух, быў нацыянальны прыгнёт. Нацыянальнае пытаньне, якое стаяла ў асяродку праграмы сыёнізму, зацемняла яго клясавы характар.

З дапамогай Зубатава ды яго агента М. Вільбушэвіч Менская „поалей сыоніцкая група“ у 1901 г. ухваліла характэрную зубатаўскую праграму, дзе прапаведвалася, што 1) толькі сыёнізм здольны разьвязаць яўрэйскае пытаньне, 2) сыёнізм вырашае справу ўсяго яўрэйства і, значыць, народны, а не клясавы рух, 3) расійская рэвалюцыя не разьвяжа яўрэйскага пытаньня нават для яўрэяў Расіі.

Паколькі сыёнізм зацямняў клясавую сьвядомасьць рабочых і адцягваў іх ад палітычнага змаганьня, яна была легалізавана Плевэ. Мала таго, Зубатаў падтрымліваў ня толькі сыёністых наогул, але і так званых „рабочых“ сыёністых ці „поалейцыёністых“.

Ня гледзячы аднак, на патугі царызму спыніць рэвалюцыйны рух, гэта зрабіць яму не ўдалося. Перад рэволюцыяй 1905 г. пачаўся ўздым рэволюцыйнай хвалі. На Беларусі ён вызначыўся Віленскай першамайскай дэмонстрацыяй і тэрорыстычным актам Г. Лекерта.

Дэмонстрацыя адбывалася ў Вільні пад лёзунгамі: „Прэч самаўладзтва“. „Няхай жыве свабода“. Дэмонстрацыяй кіравалі социял-дэмократы. У Вільні яны цалкам вялі за сабой рабочыя масы. У выніку дэмонстрацыі было арыштавана некалькі чалавек, сярод якіх 26—па загаду губэрнатара фон-Валя, у яго прысутнасьці пакаралі, розгамі. Гэта выклікала ў рэволюцыйных колах вялікае абурэньне. Арганізаваўся тэрорыстычны гурток, у які ўвайшло 6 чалавек рабочых (4 яўрэйскіх і 2 польскіх). Гурток гэты падрыхтаваў змову на фон-Валя. 5 мая рабочы Гірш Лекерт страляў у вяльможнага экзэкутара, але няўдала. Фон-Валь быў толькі паранены. Самаўладзтва акружыла свайго адданага служку арэолем „гэроя“ і паднесла яму, як падарунак, галаву адважнага рэволюцыянэра Лекерта. Ён быў павешаны 11 ліпня 1902 году.

Социялістычныя рэволюцыйныя організацыі аднесьліся да справы Лекерта, як да акту рэволюцыйнага гэроізму, вартага сапраўднага рэволюцыянэра, але погляд аб мэтазгоднасьці змаганьня з самаўладзтвам шляхам індывідуальнага тэрору социял-дэмократамі „іскраўцамі“ не падзяляўся.

*Шапавалаў.*

---

## У дапамогу адзінай школе палітграматы.

### Заданьне для прапагандыстых.

Тэма: „Барацьба за культуру“.

Мэта тэмы: высьвятліць адносіны пралетарыяту да культуры мінулага, сутнасьць новай сацыялістычнай культуры і нашы задачы па барацьбе за новую культуру.

Плян тэмы:—I. Сацыяльнае будаўніцтва і перавыхаваньне мас.

II. Наша культурная адсталасьць і барацьба з ёю.

III. Перажыткі мінулага і барацьба за новы быт.

IV. Правядзеньне нацыянальнай палітыкі партыі—шлях ажыцьцяўленьня культурнай рэвалюцыі.

### Мэтадычныя ўказаньні:

Гутарка ўвязваецца з мінулымі гутаркамі наступным чынам: у папярэдніх трох гутарках гаварылася аб агульных шляхох сацыялістычнага будаўніцтва („Праз НЭП да сацыялізму“) і аб канкрэтных задачах партыі ў галіне прамысловасьці ў сельскай гаспадарцы (у апошніх двух гутарках).

У гэтай гутарцы азнаёмімся з нашымі задачамі па культурным будаўніцтве, бо бяз вырашэньня гэтых задач пабудова сацыялізму не магчыма.

*I. Сацыялістычнае будаўніцтва і перавыхаваньне мас.* Папершае, трэба ў гэтай частцы гутаркі ўстанавіць, што патрабуецца ад будаўнікоў новай сацыялістычнай грамады.

Гэта папершае ўладаньне ўсімі ведамі мінулага, заваёва ўсяго таго з культурнай спадчыны буржуазнай грамады, што зьяўляецца для нас карысным, адкінуўшы ўсё чуждае, шкоднае. Падругое,ператвареньне чалавека, яго псыхалёгіі, яго навыкаў, аслабаненьне яго ад усёй буржуазнай спадчыны—яе эгоізму, грызьні і г. д.

„Трэба ўмець адрозьніваць тое, што было ў старой школе дрэннага і карыснага нам. Трэба выбраць з яе тое, што неабходна для комунізму“—сказанае тут Леніным трэба аднесьці да ўсёй культуры мінулага.

*2. Наша культурная адсталасьць і барацьба з ёю.* У гэтым разьдзеле гутаркі трэба завастрыць увагу на наступных пытаньнях: няпісьменнасьць, слабое разьвіцьцё тэхнічных, хэмічных і агранамічных ведаў, вельмі малая колькасьць сваіх спэцыялістых, нізкая прадукцыйнасьць працы.

Прыводзячы лічбы і факты, якія паказваюць нашу культурную адсталасьць, вучні азнаёмліваюцца з нашай барацьбой па зьніштажэньні гэтай адсталасьці. У гэтай сувязі асабліва застанавіцца на матар'ялах БССР, на рабоце і задачах таварыства „Прэч няпісьменнасьць“, на стварэньні кадру сваіх спэцыялістых, на неабходнасьці скарыстаньня і наладжваньня добрых адносін да спэцыялістых, атрыманых намі ад старой грамады і г. д.

*3. Перажыткі мінулага і барацьба за новы быт.* У гэтай частцы гутаркі неабходна застанавіцца на наступных пытаньнях: рэлігійныя і нацыянальныя забабоны, антысэмітызм, шовінізм, п'янства, закабаленьне жанчыны хатняй працай і дрэнныя адносіны да яе. Трэба паказаць, што гэтыя зьявішчы зьяўляюцца спадчынай буржуазнай грамады, што яны зьяўляюцца ланцугамі пролетарыяту і ўсіх працоўных мас, што толькі буржуазія і пануючыя клясы зацікаўлены ў захаваньні гэтых перажыткаў мінулага; асаблівую ўвагу ўдзяліць становішчу гэтых пытаньняў у БССР; асобна тут трэба застанавіцца на ролі антысэмітызму і шовінізму, як зброі ў руках контррэвалюцыі для затуманьваньня сьвядомасьці працоўных мас.

Вынікам гэтай часткі гутаркі павінна быць завастрэньне ўвагі слухачоў на задачы антырэлігійнай прапаганды (удзел у Саюзе „Бязбожнікаў“, узмацненьне яго работы і інш.), на задачах інтэрнацыянальнага выхаваньня, барацьбы супроць алкагалізму (папулярызацыя Т-ва барацьбы з алкагалізмам, стварэньне культурных чайных і інш.), на практычных мерапрыемствах па аслабаненьню жанчыны, на задачах паступовай перабудовы ўсяго нашага быту.

*4. Правядзеньне нацпалітыкі партыі—шлях ажыцьцяўленьня культурнай рэвалюцыі.* Асноўным у гэтай частцы гутаркі зьяўляецца—паказаць, якім чынам садзейнічае правядзеньне нацпалітыкі партыі (беларусізацыя, работа на мовах нацменьшасьцяў) узьняцьцю культурна-палітычнага ўзроўню мас, іх уцягненьню ў сацыялістычнае будаўніцтва.

Тут павінен быць падкрэсьлены пралетарска-клясавы, інтэрнацыянальны характар усяе нашай культурнай працы („культура нацыянальная па форме, пралятарская па зьместу“). У гэтай сувязі трэба азнаёміць вучняў з сутнасьцю ўхілаў у нацпытаньні як „левага“, гэтак і „правага“ нацыянал-дэмакратычнага. Неабходна ім паказаць, што як адзін, так і другі зьяўляюцца адбіткам дробна-буржуазных уплываў і часткай ухілаў ад ленінскае лініі наогул.

Літаратура:

*Кержанцаў і Леонцьцеў*: „Азбука Ленінізму“, разьдзел „Барацьба за культуру“ ст. 170—185.

*Ленін*: „Задачи союзов молодежи“, том XVII, выд. 1925 г., ст. 313—329.

*Кнорын*: „Аб рашаючых дробязях у вялікім пытаньні“. Зборнік артыкулаў „За культурную Рэвалюцыю“, ст. 66—105.

*Гамарнік*: „Даклад на Лістападаўскім Пленуме ЦК КП(б)Б“ разьдзел. 5, п. I. „Нацпалітыка“—Зьвязда № 279 ад 5-га сьнежня. І рэзалюцыя па гэтаму дакладу, п. 4—Зьвязда № 76, ад 1 сьнежня 1928 г.

Праграма ВКП(б) п. 12 і 13.

Праграма Камінтэрну, разьдзел IV, п. 7 „Дыктатура пралетарыяту і культурная рэвалюцыя“.

---

## Матар'ялы па БССР

### да гутаркі „Барацьба за культуру“.

Палітыка царскага ўраду ў адносінах да нацыянальных Рэспублік даводзіла да яшчэ большай культурнай адсталасьці і толькі пасьля кастрычніка ўдалося пачаць працу па барацьбе з гэтай адсталасьцю.

Так на 1000 душ насельніцтва было пісьменных

| | у 1920 г. | у 1926 г. |
|---|---|---|
| Мужч. . . . . | 413 | 542 |
| Жанч. . . . . | 234 | 278 |
| Разам. . . . | 315 | 407 |

Асабліва няпісьменнай зьяўляецца беларуская вёска, дзе ў 26 годзе лік пісьменных сярод мужчын равен 49 проц., сярод жанчын 20 проц., разам 34 проц.

За апошнія 2 гады ў лікпунктах займалася 122.743 чал. Плян зьнішчэньня няпісьменнасьці на Беларусі разьлічан на 6 год і скончыцца толькі ў 1934—35 годзе, на што патрабуецца 6.361.692 руб. Тут для камуністых паўстае задача завастрыць увагу савецкай грамадзкасьці на неабходнасьць разгортваньня шпаркай працы па арганізацыі лікпунктаў сіламі самога насельніцтва.

Вырасла таксама колькасьць школ сацвыху:

| | 1924-25 г. | | 1927-28 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Кольк. школ | Лік вучняў | Кольк. школ | Лік вучняў |
| 4-годак . . . . . | 3773 | 85012 | 4585 | 99438 |
| 7-годак . . . . . | 273 | | 277 | |



Увядзеньне ўсеагульнага навучаньня на Беларусі разьлічана на 5 год, на што патрабуецца 82.054.954 рублі, а ў першыя гады яшчэ шмат дзяцей ня будзе абхоплена школай.

Вырасла таксама колькасьць прафэсыянальна-тэхнічных школ, тэхнікумаў і рабфакаў.

| | 1925-26 г. | | 1927-28 г. | |
|---|---|---|---|---|
| | Кольк. школ | Лік вучняў | Кольк. устаноў | Лік вучняў |
| Рабфакаў . . . . | 3 | 863 | 6 | 1018 |
| Тэхнікумаў . . . . | 24 | 3999 | 30 | 5276 |
| Прафшкол . . . . | 30 | 2321 | 34 | 3922 |
| Фабзаучаў . . . . | 9 | 641 | 13 | 1009 |
| Вуч. практ. м. . . . | 6 | 309 | 8 | 616 |
| Разам . . . | | 8133 | | 11841 |

У з‘арганізаваных пасьля Кастрычніка 4-х вышэйшых Навучальных Установах займаюцца 4632 чалавекі.

Уся праца ў гэтых навучальных установах праводзіцца альбо на беларускай мове, альбо на мове нацменшасьцяў, што дапамагае ўзьняцьцю культурна-палітычнага ўзроўня працоўных мас і павялічэньню іх удзелу ў сацыялістычным будаўніцтве. Справа беларусізацыі зьяўляецца ня толькі справай школы,—усё абслугоўваньне беларускіх працоўных мас павінна праводзіцца на зразумелай для іх мове, а абслугоўваньне нацменшасьцяў таксама павінна ісьці на больш зразумелай для іх роднай мове.

Агульна-бытавыя і жыльлевыя ўмовы Беларусі з-за знаходжэньне фронтаў на яе тэрыторыі горшыя, чымся ў іншых краінах СССР. Так, на душу насельніцтва гарадоў Беларусі ў сярэднім прыходзіцца 4,97 кв. м., а калі ўзяць рабочых, дык сярэдняя норма крыху вышэй 2-х мэтраў.

Справа Аховы Здароўя хоць і паляпшаецца ў параўнаньні з мінулым, але яшчэ вельмі недастатковая. Так, у 1914 годзе на 1 урачэбны вучастак прыходзілася 46.100 душ насельніцтва, радыус абслугоўваньня=20,8 клм., а на аднаго ўрача прыходзілася 25.000 душ, то ў 1927—28 годзе на 1 урачэбны вучастак прыходзілася 18.342 душы, радыус абслугоўваньня=12,6 клм., а на 1 урача прыходзіцца 7.612 душ.

Дзеля забясьпечаньня ўзьняцьця культурнага ўзроўня неабходна палепшыць матар‘яльныя ўмовы рабочых і сялян.

Гэтае палепшаньне выяўляецца ў падвышэньні рэальнай зарплаты ў сярэднім на 11 проц. (палепшаньне становішча сялянства гл. у матар'ялах „Да 10 годзьдзя БССР ст. 12-13").

У БССР, як краіне больш адсталай яшчэ вельмі разьвіты рэлігійныя і розныя іншыя забабоны, апрача цэркваў маюцца розныя сэкты евангелістых, бапцістых і інш.

Так, па Менскай акрузе налічваецца 232 царквы, 140 сінагог, 30 касьцёлаў, 9 капліц, 1 евангеліцкая абшчына і 2 групы; 3 абшчыны бапцістых і 6 груп; 2 абшчыны адвенцістых 7-га дню. Яшчэ моцна разьвіты яўрэйскі клерыкалізм, абучэньне дзяцей у хэдарах і інш. У апошнія часы заўважаецца ўзмоцнены наступ клерыкальных элемэнтаў, праца-ж антырэлігійных арганізацыяй паслаблена і толькі ў апошні год адчуваецца ажыўленьне працы Саюзу „Бязбожнік". Так па тэй-жа Менскай акрузе маецца ячэек саюзу „Бязбожнік" 61 з 3.000 сяброў. Выхаваўчая праца ў саміх ячэйках, а тым больш сярод усяго насельніцтва недастатковая. Адсюль перад сябром партыі паўстае задача ня толькі быць сябрам антырэлігійнай арганізацыі, але шточасна весьці выхаваўчую працу сярод насельніцтва.

Культурная адсталасьць на Беларусі сказываецца і ў міжнацыянальных адносінах. Рознастойнасьць нацскладу на Беларусі, палітыка царскага ўраду, накіраваная на выхаваньне ў працоўных настрою, што ў дрэнным іх матар'яльным становішчы павінны інародцы, — вырашчывала нацыянальную розьнь у прыватнасьці—антысэмітызм. Гэтую адсталасьць зараз, у час абвастрэньня клясавае барацьбы імкнецца выкарыстаць наш клясавы вораг, які праз распальваньне нацыянальнай варожасьці марыць паслабіць дыктатуру пролетарыяту.

Справа Баршай, Дабрушская справа, відавочна паказваюць, што пад маскай антысэмітызму, альбо скрываецца відочная контр-рэвалюцыя, альбо гэты антысэмітызм зьяўляецца зброяй у руках контр-рэвалюцыі, якая накіроўваецца на пралетарскую дыктатуру праз адсталых рабочых.

Адначасова заўважваецца і яўрэйскі шавінізм, які таксама зьяўляецца вынікам уплыву дробна-буржуазных элемэнтаў на больш адсталыя слаі яўрэйскіх рабочых і зьяўляецца аднолькава шкодным, як і антысэмітызм.

Нацыянал-дэмакратызм (беларускі, яўрэйскі і інш.) супроцівопастаўляе клясава - пралетарскаму, інтэрнацыянальнаму зьместу нашай культурнай працы буржуазна-нацыянальны. Нацыянал-дэмакратычны ўхіл у часткі нашай партыі адбівае ўплыў буржуазных элемэнтаў гораду і вёскі, зьяўляецца часткай правага ўхілу наогул.

Будуючы нашу культуру нацыянальную па форме і пралетарскую па зьместу, усямерна ўзмацняючы гэтае будаў-

інцтва, мы павінны даць рашучы адпор нацыянал-дэмакратызму і нац. дэм. ухілу.

Вось чаму апошні Пленум ЦК ў сваёй рэзалюцыі (пункт 4) кажа: „у сувязі з задачамі сацыялістычнага будаўніцтва, вызначанымі Пленумам ЦК УсеКП(б), абвостранай клясавай барацьбой, узмацненьнем супраціўленьня клясавага ворага, на ўсіх фронтах, у тым ліку і ў правядзеньні намі нацпалітыкі, узмацненьнем унутры партыі правае небясьпекі, неабходна мабілізаваць увагу партыі на пытаньне правільнага бальшавіцкага правядзеньня нацыянальнай палітыкі. Неабходна са ўсей рашучасьцю праводзіць далейшую беларусізацыю партыі, савецкага апарату і прафсаюзаў. Выходзячы з лініі партыі, што культура павінна быць нацыянальнай па форме і пролетарскай па зьместу, патрэбна ўсямерна разьвіць нацыянальную форму, адначасова пільна сачыць за выразным пролетарскім яе зьместам, даючы бязьлітасны адпор тым, хто нацыянальную форму ставіць вышэй пролетарскага зьместу, хто прабуе падмяніць пралетарскі зьмест дробна-буржуазным. Неабходна ўзмацніць барацьбу супроць нацыянал-дэмакратызму, супроць ўсялякага шовінізму і асабліва супроць антысэмітызму. Клясавы вораг, контр-рэвалюцыянэр, ідзе ў бой супроць пролетарскай дыктатуры пад прыкрыцьцем шовінізму, антысэмітызму, прабуе паслабіць адзін клясавы фронт усіх працоўных усіх нацыянальнасьцяй. Апошняя абураючая справа (на заводзе Кастрычнік ёсьць контр-рэвалюцыйная справа), ёсьць выступленьне клясавага ворага. Трэба рашуча ўзмацніць работу інтэрнацыянальнага выхаваньня рабочых мас. Пакуль ёсьць клясы, ёсьць клясавая барацьба, кожны пролетары павінен памятаць, што „ёсьць дзьве нацыі у кожнай нацыі, ёсьць дзьве нацыянальныя культуры ў кожнай нацыянальнай культуры". Трэба правесьці рашучы наступ супроць клясавага ворага на фронце нац. палітыкі.

Трэба і ўнутры партыі рашуча змагацца з усялякімі ўхіламі ад бальшавіцкай нацпалітыкі, якія непасрэдна зьвязаны з агульнымі ўхіламі ад лініі партыі.

Перад членам партыі зараз паўстае пытаньне аб тэрміновым прыступу да правядзеньня ў жыцьцё гэтай рэзалюцыі.

Узьняцьце культурнасьці значна залежыць ад узьняцьця вытворчасьці працы. Маючыеся ў гэтым напрамку дасягненьні (234 проц. узросту) вытворчасьці працы ў мэталёвай прамысловасьці, 200 проц. у паліграфічнай, папяровай, нязначнае падвышэньне ў іншых галінах), яшчэ вельмі недастатковы, таксама недастаткова павялічэньне працоўнай дысцыпліны, якая выяўляецца ў 91% яўкі на работу.

Вельмі сільна на Беларусі разьвіта п'янства і самагонакурэньне.

Толькі ў апошнія часы пачала разгортвацца праца супроць-алкагольнага таварыства, пры чым, заўважаецца, што

супроцьалкагольны рух ідзе з боку рабочых мас. Заместа зачыненых піўных, сьпірытусовых крамаў адчыняюцца культурныя чайныя, вядзецца культурна-выхаваўчая праца аб шкоднасьці алкаголю, а з боку дзяржаўных установаў прымаюцца захады на паступовае скарачэньне вырабу сьпірытусовых напіткаў і барацьбы з самагонакурэньнем. Справа кожнага сябра партыі як у горадзе, так і на вёсцы разгарнуць працу гэтай новай арганізацыі (а там, дзе такіх няма, такія арганізаваць) знайсьці такія формы культурна-масавай выхаваўчай працы, якія замянілі-б сабою піўную. Адсюль неабходнасьць палепшаньня працы клюбаў, чырвоных куткоў, нардамоў і інш.

З разьвіцьцём народнае гаспадаркі і ростам культуры патрабуецца стварэньне больш шырокага кадру спэцыялістых. Зараз мы робім стаўку на падрыхтоўку за наступнае 5-годзьдзе 4000 спэцыялістых для патрэб нашай прамысловасьці і сельскае гаспадаркі. Поўнасьцю гэта колькасьць патрэб нашай гаспадаркі не здавальняе і мы прымушаны будзем запрашаць спэцыялістых з-за граніцы, асабліва ў гэткія галіны народнае гаспадаркі, якія на Беларусі ствараюцца ўпяршыню.

Дзеля падрыхтоўкі спэцыялістых, для нашай прамысловасьці пастаўлена пытаньне аб стварэньні ў Беларусі спэцыяльнае Вышэйшае Тэхнічнае Навуковае Ўстановы.

## 2. Клясавая барацьба працягваецца; яна толькі зьмяніла свае формы (Ленін, том XV, стар. 323).

# На мясцох

## Партасьвета на Аршаншчыне.

### Добры пачатак.

У сыстэме партасьветы 1928—29 навучальнага году мы маем шэраг дасягненьняў у параўнаньні з мінулым годам. Значна ўзрасла сетка партасьветы як у горадзе, так і на вёсцы. У 27—28 навучальным годзе працавала 40 школ, а зараз працуюць 55. Асабліва дадатным зьяўляецца значнае пашырэньне сеткі ВСПШ, з 3-х у 27—28 годзе яна паднялася да 14 у 28—29 г. Сетка партасьветы 1928—29 навучальнага году складаецца з 10 АПШ, 9 ВСП, 15 прадметных гурткоў (з іх 10 гурткоў самаадукацыі) у горадзе і 26 АПШ, 5 ВСПШ, 87 прадметных гурткоў (з іх 36 гурткоў самаадукацыі) у райцэнтрах і на вёсцы. Усяго ахоплена партвучобай 2589 чал., з іх камуністых—1508, якія складаюць 54 проц. да складу слухачоў і 74 проц. да складу арганізацыі (у мінулым годзе 67 проц.), камсамольскага актыву 615 чал. і беспартыйнага рабоча-сялянскага актыву 572 чал. ці 22,6 проц. да агульнага складу слухачоў [1]).

Своечасова праведзена шырокая растлумачыцельная праца ў арганізацыі па пытаньнях партвучобы, правядзеньне прынцыпу дабраахвотнасьці форм і прадметаў партасьветы дало мажлівасьць больш поўна прыстасаваць сыстэму партасьветы да запатрабаваньняў шырокіх колаў парт'арганізацыі.

Палепшылася матар'яльнае становішча ўсёй сеткі партасьветы. Раёны і буйныя прамысловыя цэнтры забясьпечаны 12 сталымі прапагандыстымі, выкладчыкі большасьці школ аплачваюцца і слухачы больш забясьпечаны падручнікамі.

К дасягненьням трэба аднесьці тое, што ўся сетка парт'асьветы, за выключэньнем 4 ВСПШ, пераведзена на белмову, чаму садзейнічала выданьне і забесьпячэньне школ і гурткоў падручнікамі на белмове. У большасьці школ уведзены агульна-адукацыйныя прадметы, да вывучэньня якіх маюцца вялікія запатрабаваньні.

---

[1]) Сюды не ўваходзяць зьвесткі на гурткі пры Тэхнікумах, Рабфаку, С.-Г. Акадэміі, лікпункты, школы малапісьменных і сеткі партасьветы па Дубровенскаму і Расьнянскаму раёнам.

## Ня зьнішчаны перашкоды.

Ня гледзячы на тое, што ў мінулым годзе было ахоплена партвучобай 67 проц. арганізацыі, мы к канцу году атрымалі дрэнныя вынікі. На працягу году мы мелі па розных прычынах вялікі адсеў камуністых (40 проц.), а з астаўшыхся школ і гурткоў скончылі 80 проц. слухачоў, такім чынам з 1449 камуністых, ахопленых вучобай скончылі 696, што складае 48 проц. да ахопленых вучобай і 32,1 проц. да складу арганізацыі.

Матар'ялы, якія ў нас маюцца з Райкомаў, шэраг сходаў слухачоў, праведзеных у апошні час, гавораць аб тым, што і ў гэтым годзе маецца пагроза атрымаць адпаведныя вынікі; некаторыя ячэйкі не захавалі прынцыпу дабраахвотнасьці пры ўкамплектаваньні сеткі, частка школ і гурткоў не забясьпечаны належнымі памяшканьнямі і ўмовамі для працы, адведзеныя дні для вучобы ў шэрагу раёнаў не захоўваюцца, лекцыйны мэтад заняткаў у некаторых школах і іншыя адмоўныя зьявішчы паніжаюць якасьць вучобы, зацікаўленасьць слухачоў і наведваньне слухачамі заняткаў. Па некаторых школах ужо маецца значны адсеў, асабліва зараз, у час разгортваньня гаспадарчых і палітычных кампаній, пачаліся масавыя зрывы заняткаў, асабліва зрываецца вучоба актыву.

Сетка партасьветы вельмі слаба забясьпечана марксыцка-ленінскі падрыхтаванымі прапагандыстымі. З 17 сталых прапагандыстых толькі 4 скончылі Белкамвуз, 7 Губсаўпартшколу, а 6 ня маюць ніякай сыстэматычнай тэорэтычнай падрыхтоўкі. Асабліва слабымі па падрыхтоўцы зьяўляюцца прапагандысты вясковай сеткі парт'адукацыі; з 78 прапагандыстых 5 скончылі Камвуз, 19 — Губсаўпартшколу, 27—Акруговыя курсы прапагандыстых і 28 ня маюць сыстэматычнай палітпадрыхтоўкі. Праводзімыя штогодна Акруговыя курсы прапагандыстых не даюць належнага эфэкту; выпускаемыя прапагандысты застаюцца слаба падрыхтаванымі, што тлумачыцца, галоўным чынам, нядбайнымі адносінамі Райкомаў пры адборы на курсы. Эфэктыўнасьць Усебеларускіх курсаў прапагандыстых таксама нізкая, дзякуючы каротка-тэрміновасьці іх (2-х тыднёвыя).

## Што трэба рабіць.

Неабходна зараз-жа палепшыць забесьпячэньне школ і гурткоў памяшканьнем, асьвятленьнем, забараніць усялякія сходы, пасяджэньні і нарады ў дні вучобы, улічыць дні вучобы ў плянах правядзеньня кампаній, з такім разьлікам, каб актыў у гэты час мог быць на занятках у школе і гуртку.

Слабая падрыхтованасьць прапагандыстых, зьяўляючыся найвялікшай перашкодай у парт'асьвеце павінна быць зьні-

шчана. Неабходна больш уважліва адносіцца да ўкамплектаваньня больш падрыхтаванымі таварышамі Акруговых курсаў прапагандыстых. АПА ЦК неабходна распрацаваць мерапрыемствы па ахопу прапагандыстых як платных, гэтак і працуючых у парадку парт. нагрузкі, завочным навучаньнем. Па нашай думцы яны павінны быць ахоплены курсамі парт'актыву КП(б)Б. Неабходна прыстасаваць гэтыя курсы для абслугоўваньня прапагандыстых (саадпаведныя дысцыпліны і праграмы завочнага навучаньня і правядзеньне 2-месячных курсаў прапагандыстых у Менску для замацаваньня завочнага навучаньня).

Неабходна зараз-жа ўзмацніць працу па падрыхтоўцы прапагандыстых у Саўпартшколах 2-й ступені і Белкамвузе з такім разьлікам, каб да будучага навучальнага году папоўніць акругі большай колькасьцю падрыхтаваных прапагандыстых.

*Л. Цайлінгольд.*

---

## Дасягненьні і недахопы ў працы Менскай вячпартшколы.

Праграма Менскай вячэрняй саўпартшколы значна пашырана: акрамя гісторыі партыі і палітэканоміі, у гэтым годзе ўведзены эканомпалітыка, Гістарычны матар'ялізм, Ленінізм і бягучая палітыка, а таксама агульна-адукацыйныя прадметы: беларуская мова, арытмэтыка, эканамічная геаграфія.

Гэткае пашырэньне курсу школы запатрабавала зрабіць яе 2-гадовай і дадаць 3 гадзіны для агульна-адукацыйных дысціплін.

Не „начыненьне“ слухача фактамі зьяўляецца галоўнай мэтай нашай школы. Нашай мэтай зьяўляецца прывучэньне слухача да правільнага марксыцка-ленінскага падыходу да кожнага пытаньня. Мы імкнемся выклікаць яго зацікаўленасьць да самастойнай, паглыбленай прапрацоўкі вывучаемых прадметаў. Наша задача—навучыць слухача самога парыцца ў кнігах і выбраць адтуль яму патрэбнае, каб ён змог зьвязаць навуку з жыцьцём, скарыстаць свае веды для штодзённай практычнай працы. Як паказаў вопыт, найлепшым мэтадам дзеля гэтага зьяўляецца паўлябараторны. Гэты мэтад і ўжываецца у нашай школе.

Дзе-ні-дзе ў групах усё-жа пад-час „нелегальна“ прарываецца консэрватыўная лекцыя замест жывой гутаркі канфэрэнцыі—100 проц. актыўнасьць выкладчыка пры такім-жа процанту пасыўнасьці слухача.

Да адмоўных бакоў у працы школы трэба аднесьці наступныя: мала часу адведзена на бягучую палітыку. Толькі за апошні час сталі афармляцца прадметныя камісіі, што адбілася на якасьці заданьняў.

Ня зусім стабілізаван і склад выкладчыкаў. За першае паўгодзьдзе прышлося замяніць 5 выкладчыкаў, што вельмі дрэнна адбілося на ўсёй працы школы. Няўдалым зьяўляецца таксама падбор падручнікаў да асобных прадметаў (галоўным чынам, па Ленінізму), няма яшчэ адзінства ў мэтодах працы школы. Усе гэтыя недахопы павінны быць зьнішчаны.

Яшчэ вясною АПА Акругкому павінен падабраць для саўпартшколы кадр прапагандыстых, трымаючы пры гэтым курс не на „адказных" (яны часьцей усяго зрываюць працу школы), але на досыць падрыхтаванага серадняка-партыйца з практычным вопытам работы ў школах. Кожны высунуты прапагандыст за некалькі месяцаў да пачатку працы павінен ведаць па якой праграме ён будзе працаваць у школе. Праграму-ж саўпартшколы трэба будаваць такім чынам: гісторыю ВКП(б) і КП(б)Б і —I год вучобы. Палітэканомія, Эканомпалітыка і бягучая палітыка—2 год. вуч. Ленінізм, Істмат (праграмы іх для СПШ павінны быць перагледжаны ў бок скарачэньня), бягучая палітыка—3 год вучобы.

Беларуская мова абавязкова для тых, хто яе яшчэ ня ведае. Такі працяг праграмы на 3 гады, памойму, неабходзен яшчэ і таму, што склад будучага году саўпартшколы мае меньшую падрыхтоўку, чым у мінулыя гады, бо ён займаўся толькі на працягу 1-го году.

Неабходна яшчэ да пачатку работы ў школе з дастатковай увагай падабраць падручнікі.

*Эранбург.*

**Ад рэдакцыі:** Просьба к працаўнікам і курсантам саўпартшкол выказацца па высунутым тав. Эранбург прапановам.

---

## Як працуе літоўская школа-перасоўка.

Літоўская школа-перасоўка працуе ў м. Бабінавічах (Высачанскага раёну, Віцебскай акр.). Бабінавічы зьяўляюцца асяродзішчам літоўскіх калёній. Школа мае 43 вучні з розных мейсц. З Высачанскага р-ну—8 чал., з Лёзьнянскага—11 чал., з Дубравінскага (Аршанскай акр.)—12 чал., з Сеннінскага р-ну—5 чал., з Багушэўскага р.—1, Лепельскага р.—1 і Любавічскай воласьці (Смаленскай г.)—5 чалавек.

Па сацыяльнаму становішчу вучні падзяляюцца наступным чынам: батракоў—13 чал., рабочых—1 ч., беднякоў—18 чал., сераднякоў—11 чал.

Членаў ЛКСМБ у школе лічыцца 15 чал.

Дзяўчат вучыцца ў партшколе 21 чал.

Ня гледзячы на тое, што школа ня мае адпаведнага памяшканьня і бываюць перабоі ў харчаваньні вучняў, праца школы праходзіць добра, бо да працы школы прыцягнуты ўсе мясцовыя культурныя сілы (настаўнікі, аграном і доктар)

і ніводная гадзіна працы ў школе не праходзіла дарэмна. Вучні заняткамі вельмі зацікаўлены.

Амаль што ўсе вучні зьявіліся ў школу з закінутых, нацыянальна замкнутых куткоў, малапісьменныя, палітычна адсталыя. За кароткі час існаваньня школы значна ўзрос іх культурна палітычны ўзровень.

З пачатку нашай палітасьветнай працы сярод літоўскага насельніцтва мы вельмі часта сустракалі варожыя адносіны да партасьветы ня толькі з боку дарослага насельніцтва, але з боку моладзі. Зараз мы наглядаем пераломм, бо партшкола сёлета ўжо не магла прыняць усіх жадаючых з прычыны недахопу ў школе мейсц. Партшкола заваявала аўторытэт сярод акаляючага насельніцтва і ў час перавыбараў саветаў вучні школы добра выканалі ўскладзеныя на іх абавязкі па абслугоўваньню ўсіх выбарчых пунктаў Бабінавіцкага сельсавету.

Бабінавіцкая літоўская партшкола, пад кіраўніцтвам тав. Копка, з посьпехам спраўляецца з задачай падрыхтоўкі палітычна-пісьменных працаўнікоў для літоўскай вёскі.

Па прыкладу Віцебску трэба, каб і Ворша з'арганізавала адзін выпуск партшколы ў аднэй із буйнейшых літоўскіх каленій сваёй акругі.

*Бучакас.*

---

## Бярыце прыклад з Мазыру.

*(Як Мазырскі АК скарыстоўвае сродкі партасьветы).*

Мы ня ведаем, як пастаўлена партасьвета на Мазыршчыне. Наколькі ахоплена партыйная маса партвучобой? Якімі відамі? Як разгорнута самаадукацыя? Як абстаіць справа з вучобай партыйнага і камсамольскага актыву? Аб усім гэтым мы раўнёханька нічога ня ведаем, бо Мазырскі АК да гэтага часа нават не удусужыўся даслаць ітогаў камплектаваньня партсеткі на 1928—29 г. Ці складзены гэтыя ітогі ўжо у АК? Таксама ня ведаем.

Усё-ж мы ўпэўнены ў тым, што як раз у Мазыры ўсе пытаньні партасьветы найлепш вырашаны.

Мазыру няма куды расьці!

Аб гэтым сьведчыць п. 2 пратаколу паседжаньня сакратарыяту Мазырскага АК ад 26/I—29 г.

| Слухалі: | Пастанавілі: |
| --- | --- |
| Аб пасылцы на Усебеларускі зьезд КП(б) сакратароў РК. | Пасылаць на зьезд КП(б)Б сакратароў РК (ідуць прозьвішчы) не абраных дэлегатамі ў якасьці гасьцей. *Сродкі на іх утрыманьне ўзяць з сум партасьветы.* |

Якая находчывасьць!

**Бярэце прыклад з Мозыру!** *Пропагандыст.*

## Партшкола без памяшканьня.

На Менскім Шклозаводзе адзіная школа палітграматы ня мае памяшканьня, у пакоі, дзе займаецца школа, знаходзіцца ленкуток, праводзяцца сходы комсамольцаў, адбываюцца агульныя рабочыя сходы.

Яна і служыць харчэўняй для рабочых. А ў часе заняткаў там холадна, як на вуліцы. Рабочыя, якія працуюць у нядзелю, зусім школы наведваць ня могуць таму, што школа працуе ў нядзелю.

Трэба, нарэшце, палепшыць ўмовы работы школы.

*К.*

---

## На канфэрэнцыі адзіных школ палітграматы кастрычнікаўскага раёну.

28-га студзеня адбылася канфэрэнцыя кіраўнікоў і дэлегатаў ад слухачоў адзіных школ палітграматы Кастрычнікаўскага раёну.

На канфэрэнцыі былі зачытаны вынікі работы школ за першае паўгодзьдзе і абгавораны задачы, якія стаяць перад школамі ў другім паўгодзьдзі. У раёне маецца 25 школ, якія ахопліваюць больш 400 слухачоў. У дакладах т. т. Окура і Левіна былі адзначаны наступныя недахопы ў рабоце школ:

Слухачы не займаюцца дома, а здавальняюцца толькі тым, што чытаюць у школе, часопіс „В помощь партучобе" ні кім з слухачоў ня выпісваецца, заўважваюцца дрэнныя адносіны да агульна-адукацыйных прадметаў.

Часта прыходзіцца кіраўнікам весьці заняткі з 4—5 таварышамі. Яшчэ горшыя ў шмат якіх выпадках адносіны да беларускае мовы. На аднэй з буйнейшых фабрык матэматыка ў школе наведваецца, а беларуская мова—мала.

Дакладчык падкрэсьліў недапушчальнасьць такога зьявішча. Да канца году слухачы школ павінны ўладаць белмовай.

Даклады выклікалі вялікую актыўнасьць сабраўшыхся, выступіла ў спрэчках каля 20 чалавек. Выступаючыя застанаўліваліся на тым, што на агульна-адукацыйныя прадметы адведзена мала часу, і што метад абучэньня беларускае мовы не задавальняе. Адзін з слухачоў прапанаваў ужываць пры вывучэньні беларускае мовы пераклады з беларускага на расейскі і наадварот. Рашуча выступалі супроць прапускаючых заняткі. У гэтым напрамку адчуваецца безадказнасьць слухачоў і малая зацікаўленасьць Бюро ячэек.

Былі прапановы аб выключэньні з школы тых слухачоў якія дрэнна адносяцца да вучобы, аб палепшаньні праверкі посьпехаў. Скардзіліся, што кіраўнікі мала ўвязваюць тэо-

рыю з сучасным жыцьцём, што слабая ўвага ўдзяляецца з іх боку адсталым слухачом і г. д.

Ёсьць выпадкі, калі РК не зьвяртае дастатковую увагу на забясьпячэньне школ памяшканьнем.

Надта цікавым было выступленьне аднаго слухача школы, чыгуначніка, ён казаў: „мы ня зможам стаць добрымі ўдзельнікамі социялістычнага будаўніцтва, пакуль не падымем нашы тэорытычныя веды. Мэтад гутаркі зьяўляецца добрым, беларускую мову трэба вывучыць, я сам хоць і расеяц, і кацялок мой чя так добра варыць, але на белмову добра напіраю“.

Канфэрэнцыя прайшла надта актыўна—выявіла як адмоўныя, так і добрыя бакі нашых школ. Трэба зьнішчыць недахопы, якія яшчэ маюцца: трэба больш сачыць за наведваньнем, перавесьці шпарчэй заняткі па ўсім прадметам на беларускую мову, лепш наладзіць кіраўніцтва ячэек і РК, прыняць пад увагу выказаныя думкі аб палепшаньні мэтадаў працы—вось аб чым павінен памятаць кожны кіраўнік школы, кожны слухач, кожнае Бюро ячэйкі.

*Нозік.*

---

**2. Клясавая барацьба працягваецца—і наша задача падпарадкаваць усе інтарэсы гэтай барацьбе. (Ленін том XVII стр. 323).**

## Праграмы для эпізадычных гурткоў.

### Становішча сельскае гаспадаркі БССР і задачы па яе ўздыму, колектывізацыі і індустрыялізацыі.

Мэта заданьня: Высьвятліць, якое месца займае сельская гаспадарка ў народнай гаспадарцы БССР і напрамак у разьвіцьці сельскае гаспадаркі краіны, наогул і па асобных раёнах; яе агульнае становішча і шляхі соцыялістычнай адбудовы.

Плян заданьня: Месца сельскае гаспадаркі БССР у народным прыбытку краіны. Удзельная вага паасобных сельска-гаспадарчых галін у агульным сельска-гаспадарчым прыбытку. Агульны тып сельскае гаспадаркі Беларусі. Сельска-гаспадарчыя раёны. Становішча сельскае гаспадаркі краіны наогул і па асобных раёнах у параўнаньні з даваенным і з капіталістычнымі краінамі. Мерапрыемствы дзяржавы па падняцьцю сельскае гаспадаркі. Буйная і дробная сельская гаспадарка. Індустрыялізацыя і колектывізацыя сельскае гаспадаркі. Роля сельска-гаспадарчай коопэрацыі, асабліва вытворчай. Індустрыялізацыя БССР і яе сувязь з разьвіцьцём сельскае гаспадаркі (выраб с. г. машын, выраб угнаеньняў, пераапрацоўка с. г. продукцыі).

Кантрольныя пытаньні:

1. Які проц. народнага прыбытку складала сельская гаспадарка да вайны і зараз?
2. Да якога тыпу сельскае гаспадаркі можна аднесьці Беларусь?
3. Якія сельска-гаспадарчыя раёны мае Беларусь?
4. Якія буйныя гаспадаркі могуць разьвівацца ў БССР і якія нам патрэбны?
5. Што затрымоўвае індустрыялізацыю сельскае гаспадаркі?
6. Якая сувязь існуе паміж прамысловасьцю БССР з разьвіцьцём сельскае гаспадаркі?
7. Што можна рабіць для індустрыялізацыі і колектывізацыі сельскай гаспадаркі вашай акругі, раёну, вёскі?

Літаратура;

1. „Сельское хозяйство Белорусской ССР и мероприятия по его восстановлению“ под об. редак. Д. Прищепова. Минск, 1925 г.

2. Б. Д. Архангельский—„Укрупненная БССР“. Минск, 1927 г., ст. ст. 24—42.

3. х) „Переспективный план Наркомзема БССР“, ст. ст. 1—124.

4. х) „Материалы к пятилетнему перспективному плану народного хозяйства БССР“ на 1927-28—1931-32 г. г.“, ст. ст. 1—82.

5. Артыкул НКЗ т. Прищепова о поднятии урожайности. „Зьвязда“ № 275, 1928 г.

6. „Большевик“ № 17—18 за 1928 г. Я. Никулихин. „О крупном и мелком хозяйстве в земледелии“.

7. х) Белорусская Советская Социалистическая Республика“ изд. СНБ Минск, 1927 г. ст. ст., 118—210.

## Эканамічнае і палітычнае становішча Заходняй Беларусі *).

Мэта тэмы—азнаёміць з сучасным становішчам Заходняй Беларусі і паказаць, што яна зьяўляецца арганічнай часткай БССР.

### Плян тэмы.

I.

*Уводзіны:* Зах. Беларусь, як арэна вялікіх палітычных падзей. Рыскі мір. У выніку імпэрыялістычных імкненьняў Польшчы—Зах. Беларусь калёнія (зборнік Зап. Беларусь, ст. 3—4).

*Граніцы Зах. Беларусі.* Апісаньне граніцы, плошча. Насельніцтва. Адміністрацыйны падзел (зборнік Зап. Беларусь, ст. 93—101).

*Гушчыня насельніцтва* (зборнік Зап. Беларусь, ст. 126—136).

*Нацыянальны склад* (зборнік Зап. Беларусь, ст. 160—163).

*Сацыяльны і прафэсыянальны склад насельніцтва.* Перасоўкі ў сацыяльных групах. Абядненьне, як вынік войнаў і панскай акупацыі. Аграрная будова краю. Падзел насельніцтва на прафэсіі (зборнік Зап. Беларусь, ст. 163—169, „Бальшавік Беларусі“, № 2, 1928 г. стар. 7).

*) Усебаковае вывучэньне Заходняй Беларусі зьяўляецца вельмі важным як для партыйных мас, так і для шырокага рабоча-сялянскага актыву. Гэтая задача набывае тым большае значэньне ў сучасны момант, калі ваяўнічы польскі фашызм рыхтуецца да нападу на СССР. Вось чаму асабліва рэкамэндуем гэту праграму для эпізад. гурткоў. У наступным нумары будзе зьмешчаны дадатковы матар'ял да гэтай праграмы

*Рэдакцыя.*

II.

*Эканамічнае становішча краю.* Зах. Беларусь, як калёнія польскага капіталу. Рэгрэс гаспадаркі краю. Пастаяннае крызыснае палажэньне прамысловасьці. Становішча рабочых. Абрабаваньне прыродных багацьцяў краю. Грабежніцкая лясная гаспадарка. Экстэнсыфікацыя сельскай гаспадаркі асноўнай сялянскай масы. Упадак жывёлагадоўлі. Асадніцтва. Падаткі. Зямельны голад. Іншыя балячкі вёскі. Разьвіцьцё капіталістычных адносін на вёсцы. Гаспадарчае ўмацаваньне і палітычная актыўнасьць беларускага кулацтва. Зьніжэньне асноўнай серадняцкай масы да беднякоў. Становішча сельскага пралетарыяту („Бальшавік Беларусі“ № 2 ст. 7—10, 25—35; „Бальш. Беларусі“ № 9, ст. 13—14; „Бальш. Бел.“ № 10, ст. 10—11; інтэрпэляцыі беларускіх паслоў у сойм, ст. XXIII—XXVIII з прадмовы; „Куды Пілсудзкі вядзе Польшчу“—Вансоўскі і Рудаміна, ст. 46—52).

III.

*Фашысцкі пераварот.* Эканамічныя прычыны. Палітычныя фактары. Фашысцкая Польшча неабходна для антысавецкага блёку („Куды вядзе Польшчу Пілсудзкі“, Вансоўскі і Рудаміна, ст. 27—30).

*Рабочы рух.* Беспрацоўе. Зарплата. Профрух. Барацьба рабочае клясы („Зах. Бел.“—Лучанін, ст. 48—49; „Куды Пілсудзкі вядзе Польшчу“ Вансоўскі і Рудаміна, ст. 46—52).

*Нацыянальна-вызваленчы сялянскі рух.* Клясавыя і сацыяльныя моманты ў гэтым руху. Масавасьць і рэвалюцыйнасьць гэтага руху. Беларуская Сялянска-Работніцкая Грамада, як легальны паказальнік нацыянальна-вызваленчага руху. Кіраўніцтва компартыі гэтым рухам. („Бальш. Бел.“ № 9, 10 і 12, артыкулы: Сялянскія партыі ў Зах. Беларусі).

IV.

*Палітыка фашысцкага ўраду* ў адносінах да рабочага і нацыянальна-вызваленчага сялянскага руху. Палітыка ўраду ў эканамічнай, аграрнай і нацыянальнай галінах. Тэрар. Ваенная палітыка ўраду і Зах. Беларусь, як пляцдарм у будучай вайне проціў СССР („Бальшавік Бел.“ № 10, ст. 11).

*Згодніцкія партыі на Зах. Беларусі.* Характарыстыка ППС і Бунда і іх згодніцкая работа сярод рабочых мас. Характарыстыка беларускіх згодніцкіх партыяў і іх контррэвалюцыйная роля ў вызваленчым руху сялянскіх мас. Згодніцкія партыі—агэнты фашызму і актыўныя ўдзельнікі падрыхтоўкі вайны проці СССР („Бальш. Бел.“ № 9, 10 і 12; Вансоўскі і Рудоміно. „Куды вядзе Пілсудзкі Польшчу“ ст. 17; „Зап. Бел.“ сбор. кн. I, ст. 209).

*Камуністычная партыя Зах. Беларусі.* Характэрныя адзнакі рэвалюцыйнага руху ў Зах. Беларусі. Цяжкасьці ў кіраўніцтве рэвалюцыйным рухам. 11 канфэрэнцыя КПЗБ. Сэцэсыя. Бальшавізацыя партыі і ўмацаваньне кіраўніцтва рэвалюцыйным рухам. Фашысцкі пераварот і памылкі КПЗБ. Дыскусія ў партыі. КПЗБ, як кіраўнік рэвалюцыйным рухам. Роль КПЗБ у наступаючых падзеях („Зьвязда“ ад 31 сьнежня 1928 г. і „Савецкая Беларусь“ ад 28 сьнежня, артыкул „На шляху да пралетарскай рэвалюцыі“ Сталевіча („Зап. Бел.“ сборн. книга 1-я, стр. 210).

*Ад рэдакцыі:* У мінулым нумары нашага бюлетэню з прычыны вялікай пасьпяховасьці ўкралася вельмі многа памылак.

---

**4. Перад вамі задача будаўніцтва, і вы яе можаце вырашыць толькі, аўладаўшы ўсімі сучаснымі ведамі, умеючы абярнуць камунізм з гатовых завучаных формул саветаў, рацэптаў, прадпісаньняў, праграм у тое жывое, што аб‘яднае вашу непасрэдную работу, абярнуць камунізм у кіраўніцтва дзеля вашай практычнай работы (Ленін том XVII стар. 320).**

---

*Адказны рэдактар:* Б. Стасевіч.

*Рэдкалегія:* Гудзінскі. Гольдзін. Мэерзон. Ратнер. Тамашэўскі.

# ЗЬМЕСТ

